


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 10 (217) ЛІПЕНЬ 2016 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**

*Не таго праўда, хто багата крычыць*

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

## ПАМЕНЕЛА УЧАСТКАЎ ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ

**Рашэннем Гарадоцкага выканаўчага камітэта на тэрыторыі Гарадоцкага раёна ў выбарчую кампанію ў Палату прадстаўнікоў утворана 28 участкаў для галасавання. Гэта на два ўчасткі менш, чым у мінулагоднюю прэзідэнскую кампанію.**

Рашэннем № 635 ад 5 ліпеня Гарадоцкі райвыканкам на тэрыторыі Гарадоцкага раёна ўтварыў 28 участкаў для галасавання. У параўнанні з папярэдняй прэзідэнскай кампаніяй ліквідаваны два ўчасткі для галасавання: Мехаўскі і Газьбенскі.

Адпаведна вёскі ранейшага Мехаўскага ўчастка адыйшлі да Бычыхінскага ўчастка № 10, а пераважная частка вёсак Газьбенскага ўачстка ўвайшла ў Руднянскі ўчастак № 24. Ліквідацыя участкаў у Газьбе і Мехавым выклікана значным змяншэннем выбаршчыкаў на гэтых участках. Пасля ліквідацыі калгасаў і закрыцця школ у Газьбе і Мехавым на тэрыторыі гэтых участкаў у мінулым годзе засталося адпаведна толькі па 83 і 122 выбаршчыка.

У цяперашняй кампаніі самая меншая колькасць выбаршчыкаў будзе на Вярэчскім, Смалоўскім, Марчанскім, Руднянскім, Сцепанавічскім участках для галасавання. На гэтых участках выбаршчыкаў будзе менш 200. Самыя ж вялікія ўчасткі знаходзяцца ў Гарадку: Камсамольскі — каля 2220 выбаршчыкаў і Баграмянаўскі — каля 1900 выбаршчыкаў.

Нагадаем, што ўсяго выбаршчыкаў у Гарадоцкім раёне ў прэзідэнскай кампаніі 2015 года было зарэгістравана 17 845.

**Л. Антонаў**

КРЫЗІС

## ХУТКА ЎСЕ АРГАНІЗАЦЫІ МОГУЦЬ СТАЦЬ СТРАТНЫМІ

**Нацыянальны статыстычны камітэт прадставіў даныя аб сацыяльна-эканамічным развіцці раёнаў Беларусі за першыя пяць месяцаў 2016 года. Гарадоцкі раён стаў адным з лідараў па колькасці стратных прадпрыемстваў.**

Паводле афіцыйных даных сярод даследуемых арганізацый колькасць стратных за пяць месяцаў гэтага году склала 70%. Пры гэтым у мінулым годзе на Гарадоччыне колькасць стратных арганізацый на гэты перыяд была яшчэ 55%. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў на Віцебшчыне і значна вышэйшы, чым сярэдне абласны паказчык. Так у Віцебскай вобласці за мінулы год колькасць стратных арганізацый вырасла з 26,0% да 32,3% у гэтым годзе.

Пры гэтым у суседнім Віцебскім раёне колькасць стратных арганізацый зменшылася з 32% да 28%, а ў Шумілінскім раёне адбыўся значны рост стратных арганізацый з 36,8% да 63,2%.

Стратная дзейнасць арганізацый Гарадоччыны звязана ў значнай меры з тым, што маюць вялікі рост пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць за апошні год: з 273 млрд. рублёў да 401 млрд. рублёў. А вось прамыя замежныя інвестыцыі ў раён зменшыліся з 2, 670 млн. даляраў да 489 тысяч даляраў.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

“СЛАВЯНСКІ БАЗАР”

## ПАД СЦЯГАМ «ГАРАДОЦКІ ПАРНАС»

**Тэатралізаваны парад-імправізацыя ў гонар 25-гадовага юбілею Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» адбыўся ў дзень яго адкрыцця, 14 ліпеня. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі творчых калектываў раёнаў Віцебшчыны, якія прымаюць у сябе фестывалі і святы міжнароднага і абласнога маштабаў.**

Быў прадстаўлены ў мнагатысячным шэсці і Гарадок, знакаміты святам народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору, прысвечаным К. Вераніцыну, «Гарадоцкі Парнас» і тым, што на яго галоўнай сцэне прапісаўся агляд-конкурс харэаграфічных калектываў «Прыдзвінскія карункі».

Пад бадзёры барабанны дробат зводнага аркестра барабаншчыц, са шматлікімі звонкімі духавымі аркестрамі ўдзельнікі параду прайшлі ад плошчы Перамогі да Летняга амфітэатра.Кульмінацыяй шэсця стала тое, што да алеі сцягаў краін-удзельніц святочных і конкурсных мерапрыемстваў — сёлета іх ажно 45 — упершыню далучыўся сцяг фестывалю. Пачэснае права ўзняць яго было прадстаўлена ўладальніку гран-пры «Славянскага базара-2015» Дзімашу Кудайбергену з Казахстана.

— Старт фестывалю дадзены! — урачыста аб'явіла намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Наталля Качанава і нагадала яго дэвіз. — Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення!

Якраз насупраць кафэ-клуба «Тэатральнае» разварнуўся наш панадворак, гучна названы «Гарадоцкім Парнасам». Ён будзе працаваць да 16 ліпеня. Сустракае яго наведвальнікаў сам палясоўшчык Тарас, разам з парнаскімі багамі ён прапаноўвае віцябчанам і гасцям горада сфатаграфавацца ля «заячай нары», лясного куточка, аформленага чучаламі жывёлін і птушак супрацоўнікамі РГГА «БТПР».

Гараджане разглядаюць «дзівоцтвы»: пеўня, курачак, перапёлак, індычку (менавіта яна выклікае найбольшую цікаўнасць) і звяртаюць увагу на прадукцыю Гарадоцкай птушкафабрыкі пад брэндам «Мара гурмана».

Пачаставацца свежа-прыгатаванымі стравамі прапаноўваюць удзельніцы аматарскіх аб'яднанняў нацыянальнай кухні з Кабішча, Пальмінкі, Даўгаполля. Водар лунае ў паветры ад сашэ з лекавымі траўкамі.Дзеці стаяць у чарзе, каб работнікі цэнтральнай бібліятэкі намалявалі на іх тварыках і ручках прыгожыя малюнкі, самы папулярны з якіх — фестывальны васілёк. Ля бібліятэчнай выставы «Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса?» можна паспытаць шчасце ў латарэях і розыгрышах. Багатая на вырабы сувенірная лаўка Дома рамёстваў і фальклору. Тут жа іх супрацоўнікі праводзяць майстар-класы, на вачах у здзіўленай публікі робяць новыя вырабы. Звонка заліваюцца гармонікі...

— Гарадоччына творчая прыме ўдзел у шэрагу святаў-конкурсаў, што пройдуць у рамках юбілейнага «Славянскага базара», — расказвае намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Вольга Каўрыга. — Сярод іх — свята-конкурс народнага майстэрства «Шыўкі майстэрства» з праграмай-прэзентацыяй і фотасесіяй традыцыйных народных строяў. 16 і 17 ліпеня адбудзецца свята-конкурс лозапляцення «Лазовы прут», у якім прыме ўдзел майстар Васіль Сіманковіч са сваім вучнем Аляксандрам Круцялёнкам.

У конкурсе майстэрства культарганізатараў «Славянская казка» выступіць калектыў Пальмінскага СДК. Нам належыць пацвердзіць брэнд свайго раёна ў рамках прэзентацый тэматычных тэатралізаваных пляцовак брэндаў гарадоў і раёнаў. Фестывальныя дні абяцаюць быць гарачымі і насычанымі, запрашаем падтрымаць нас!

**Святлана Якаўлева**
**«Гарадоцкі веснік»**

РЫБАЛКА

## АБМЕЖАВАЛІ ПРАВЫ НА РЫБАЛОЎСТВА

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання прыняла пастанову аб адмене права на лоўлю рыбы на дарожку, з судоў з рухавікамі і падводнае паляванне на водных аб'ектах Беларусі. Пад абмежаванне трапіла 10 азёр і рака Аўсянка з Гарадоцкага раёну.**

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання прыняла пастанову № 14 аб ўнясенні зменаў у адпаведную пастанову 2014 года наконт абмежавання права на лоўлю рыбы на дарожку, з судоў з рухавікамі і падводнае паляванне сябраў «Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў» . У гэтай Пастанове Міністэрства сельскай гаспадаркі ў Гарадоцкім раёне вызначана 11 водных аб'ектаў, дзе забаронены вышэй названыя спосабы лоўлі рыбы. У Гарадоцкім раёне гэта: возера Вялікае Свінна, Задрачанскае, Кашо, Лугавое, Шчарбакоўскае, Арэхавае, Ціёста, Белае-Сурміно, Чарнова, Ласвіда і рака Аўсянка ад вёскі Вярэчча да возера Аляксееўскае.

Усяго па дадзенай Пастанове падобныя абмежаванні ўведзены на 83 водных аб'ектах Віцебшчыны ( больш толькі ў Гарадзенскай вобласці — 84), а найменшая колькасць у Магілёўскай — 27 і Берасцейскай — 29 водных аб'ектаў. Па Беларусі абмежаванне ўведзена ўсяго на 322 азурах, рэках, сажалках і г.д.

Адпаведна для рыбаловаў, якія парушаюць дадзенае рашэнне Мінсельгасхарча, магчыма прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй прыладаў рыбалоўства.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета “Гасцінец” пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле “Газета “Гасцінец”, дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАВІНЫ ФУТБОЛА

# ПЕРАМАГЛІ Ў ГАСЦЯХ МІНІМАЛЬНЫМ СКЛАДАМ

**26 чэрвеня пры +32 градуснай спёке ФК «Прамень — Кроў СК» перамог у Талачыне мясцовы ФК «Ніва» з лікам 3:1 і замацаваўся сярод лідараў чэмпіянату вобласці.**

На гульню пятага тура чэмпіянату вобласці гарадоцкі клуб ледзь набраў 11 гульцоў, якія накіраваліся на поўдзель вобласці ў Талачын. У сілу таго, што многія легіянеры не здолелі быць на гульні, наша каманда апынулася без завпасных гульцоў, але з тымі, хто гатоў змагацца за гонар клуба.

Нашы футбалісты пачалі гульню з атак і ўжо на 25 хвіліне вялі з лікам 2:0. Спачатку пенальці рэалізаваў Антон Вялічка, а потым класна выканаў штрафны удар Вячэслаў Мочкін.

Гульня без замен у спякоту адбілася на характары матчы ў другімтайме, калі гаспадары, правёўшы дзве замены, пачалі дзейнічаць больш актыўна і на 80-й хвіліне іх лепш форвард выйшаў адзін на адзін і скарацію адставанне на адзін мяч.

Застаўшыяся 10 хвілін прайшлі ў нярвовай абстаноўцы, калі гаспадары пачалі лічыць, што іх засуджваюць. Гэта нярвознасць існавала да другой хвіліны дадатковага часу пакуль Вячэслаў Мочкін з падачы Іллі Жарнасек не зрабіў лік канчатковым: 3: 1.

Наш трэнер Сяргей Куракоў так пракаментаваў матч: «Сегодняшний день прошёл под девизом: „Нас мало, но мы в тельняшках“. Играли без замен, по такой жаре было очень тяжело. Но даже в таком положении, мы владели преимуществом, контролировали мяч, старались играть разнообразно. Практически закрыли лидера хозяев Сляцкого. Все боролись, вопросов не к кому нет, молодцы.

Но, надо отметить пару игроков. Величко Антон, хороший, скромный человек (30 лет), делает большой объем работы, грамотно держит мяч, перекусил в центре хвалёного Деменковца, который пихал всем, игрокам и судьям, но так ничего и не сделал. Мочкин Вячеслав (40 лет), человек преданный спорту от и до, где-то перегибают палку, но это Слава, его можно понять и простить.

Сейчас наступает пауза, можно стереть пот со лба и подумать дальше. Спасибо всем кто играл и переживал за нас!!!»

Склад ФК «Прамень — Кроў СК»: Палавінскі-Самсаненка, Кірпічэнка, Аўсяннікаў, Калтуноў-Шыла, Вялічка, Рудоў, Жарнасек, Малафееў — Мочкін.

Пасля гэтага тура ў трох каманд з нашай групы стала па 12 ачкоў, але у нас на адну гульню больш.

Наступны тур наша каманда прапускае і толькі 9 ліпеня яе чакае гульня ў Сянно з дзеючым чэмпіёнам Віцебшчыны клубам «Камунальнік». Але ў сувязі з тым, што сененцы гуляюць 8 ліпеня на Кубак Беларусі з «Нафтанам», то магчыма гульня будзе перанесена.

**Л. Антонаў**

ЗДАРЭННЕ

# У ГАРАДКУ І РУБЕ ДЗЕЦІ ВЫПАЛІ З ВАКОН

**7 ліпеня двое чатырохгадовых дзіцяці пацярпелі ў Віцебскай вобласці ад выпадання з вакон трэццяга і першага паверхаў.**

У Гарадку 4-гадовы хлопчык быў дома пад наглядам свайго 19-гадовага дзядзькі. Малады чалавек пакінуў дзіцяці аднаго ў пакоі на некалькі хвілін, а калі вярнуўся, выявіў адкрытую на балкон дзвер і пачуў плач дзіцяці, які даносіўся з вуліцы. Выйшаўшы на балкон, убачыў ляжачага на траве пад балконам хлопчыка.

Кватэра размешчана на трэцім паверсе трохпавярховага панэльнага дома, паведаміла афіцыйны прадстаўнік СК па рэгіёне Святлана Сахарава. На балконе ўсталяваная рама з металапрофіляў з рассоўнымі вокнамі. Пад адкрытай балконнай рамай стаяў зэдлік.

Хлопчык з траўмамі і страсеннем мозгу шпіталізаваны ў рэанімацыю.

У гэты ж дзень у пасёлку Руба дзве сястры знаходзіліся ў бабулі ў кватэры, размешчанай на першым паверсе. Дзяўчынкі гулялі на неостекленные балконе, абсталяваным парэнчамі, побач з якімі стаяла крэсла. Бабуля ў гэты час знаходзілася на кухні і перыядычна заходзіла ў пакой, у якой размешчаны выхад на балкон, — паглядзець за дзецьмі. Каля 13 гадзін на кухню прыйшла старэйшая 6-гадовая сястра і паведаміла бабулі, што малодшая сястра, знаходзячыся на балконе, убачыла на вуліцы ката, нагнулася праз парэнчы і ўпала з балкона на зямлю, стукнуўшыся галавой.

4-х гадовая дзяўчынка дастаўлена ў бальніцу.

**tut.by**

СТЫХІЯ

# НА МАЗАЛАВА АБРЫНУЎСЯ ЎРАГАН

**13 ліпеня ў выніку парывістага ветру, які прайшоў па тэрыторыі Віцебскай вобласці ў перыяд з 16:00 да 17:00 пашкоджаны дахі каля 30 жылых дамоў у Віцебскім, Шумілінскім, Талачынскім і Дубровенскім раёнах і Оршы, а таксама дах Дубровенскай цэнтральнай раённай бальніцы, гаворыцца ў паведамленні МНС.**

Для ліквідацыі наступстваў моцнага ветру па стане на 19:00 былі задзейнічаныя: 251 чалавек арганізацый раёна, 83 адзінкі тэхнікі (з іх 34 работнікі і 12 адзінак тэхнікі — МНС.

Па дадзеных РУП «Віцебскэнерга» у перыяд узмацнення ветру на тэрыторыі Віцебскай вобласціадбыліся аварыйныя адключэння ў Бешанковіцкім, Віцебскім раёне 9 ліній электраперадачы, 123 трансфарматарных падстанцый, 52 населеных пунктаў і 1 фермы. Для аднаўлення аварыйных адключэнняў былі задзейнічаны 37 брыгад РУП «Віцебскэнерга» — усяго 40 адзінак тэхнікі і 142 працаўніка.

У падраздзяленнях галінс прыведзены ў гатоўнасць да выкарыстання па прызначэнні 93 перасоўных электрагенератараў (магутнасцю ад 1 да 125 кВт). Адсяленне жыхароў дамоў, якія пацярпелі з прычыны прахаджэння парывістага ветру, не праводзілася. Таксама ў арганізацыях падрыхтаваны да выкарыстання 159 рэзервовых аўтаномных крыніц электразабеспячэння.

Работы па расчыстцы асноўных дарог ад зваліліся дрэў ужо завершаны.

У Дубровенскім, Аршанскім, Віцебскім раёнах абвешчаны збор асабістага складу работнікаў МНС, працуюць камісіі па НС.

Метэастанцыяй ў Оршы 13 ліпеня зафіксаваныя парывы ветру хуткасцю 11-20 метраў у секунду.

Днём 14 ліпеня на большай часткі тэрыторыі Беларусі чакаюцца навальніцы. Пры навальніцахмесцамі па краіне — шквалістае ўзмацненне ветру парывамі да 15-20 м / с, у асобных раёнах град, па захадзе — моцныя ліўні.

Як паведамлялі «Народныя навіны Віцебска», 11 ліпеня моцны вецер у Шаркаўшчынскім раёне выклікаў сур'ёзныя разбурэнні: пашкоджанні дахаў будынкаў, перакульванне тэхнікі. Відавочцы зафіксавалі на фота і відэа праходжанне вялікага смерчу.

**Прэс-служба Віцебскага ўпраўлення МНС**

АДПАЧЫНАК

# ТОП-5 МАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛАРУСКІХ АЗЁР

**Шматлюдны курорт ці таямнічае лясное возера? Пясчаны пляж ці стромкі бераг? Гучны фэстываль альбо ціхая рыбалка? Пяць маляўнічых азёр і азёрных груп, у падарожжа да якіх запрашае аўтарка «Радыё Свабода» Яна Шыдлоўская, уключаючы і возера Лосьвіда.**

**1. Дрывяты**

Калісьці возера Дрывяты падступала да самай Браслаўскай гары, дзе стаяў драўляны замак. Згодна легендзе, зь яго сьцен у возера кінулася ганарлівая і наравістая прыгажуня Дрыва — дачка старога князя. Адрынутую жаніхом князёўну не ўратавалі, аднак яе імя ўшанавалі ў назьве возера. Цяпер яно зьмялела, адсунулася ад замчышча на некалькі вуліц, але, тым ня менш, засталося адным з найбуйнейшых у краіне.

Адкрытае ўсім вятрам возера зрэдчас застаецца спакойным. Затое за кошт перамяшэньня вады яно хутка праграваецца, і летам гарадзкі пясчаны пляж на Дрывятах становіцца самым папулярным месцам Браслава. Час ад часу на возеры можна ўбачыць белыя ветразі.

**2. Сьвіцязь**

Каб патрапіць на сьвіцязянскі бераг, трэба прайсьці праз цяністую нават у наймацнейшую сьпёку паласу лесу з дубоў, ялінаў, грабаў, хвояў, ясеню і клёнаў. Лес настолькі блізка падступае да Сьвіцязі, што зрабіў тутэйшы пляж адным з самых вузкіх у краіне. Абмытыя хвалямі карані магутных сосны навісаюць над празрыстай вадой. Плыткая прыбярэжная частка возера высланая шэрым пяском, зь якім асабліва падабаецца гуляцца дзеткам.

Ля берагоў вада Сьвіцязі хутка праграваецца, і па танізуючыэфэкттрэбаплыцьна глыбіню, дзе, згодна легендзе, ляжыць старажытны горад князя Турана. Выпраўляючыся на Сьвіцязь, варта пакласьці ў пляжную торбу томік Адама Міцкевіча, многія вершы якога зьвязаныя з гэтым краем, а таксама кошык для чарніц, брусьніц і суніц, якімі багаты навакольны лес.

**3. Лосьвіда**

Вялікае возера Лосьвіда ў навакольлі Віцебска атачае духмяны і водарны хваёвы бор. Падыходы да вады часткова ўпарадкаваныя пад пляжы з жоўтым пяском і галькай. Пясчанае дно доўжыцца аж да глыбіні шасьці мэтраў, што робіць уваход у ваду даволі прыемным. У сьпякотнае надвор'е на беразе Лосьвіда адпачывае шмат турыстаў.

Вядомае возера і сярод рыбакоў — летам асабліва добра заглынаюць жыўца лешч і шчупак. Дарэчы, кажуць, што менавіта рыбакі далі назву Лосьвідзе, дзе ў даўнія часы гадаваўся ласось. Згодна зь іншай вэрсіяй, на берагах возера надта часта бачылі ласёў. Працягласьць берагавой лініі Лосьвіда амаль 25 кілямэтраў. Па ўсім пэрымэтры возера і ў рознай ступені аддаленасьці ад вады пабудаваныя базы і дамы адпачынку, санаторыі і кемпінгі.

**4. Снуды і Струста**

Сярод Браслаўскай групы азёр турысты асабліва вылучаюць азёры Снуды і Струста, аддзеленыя адно ад аднаго працяглай паўвыспай, на якой дазволены стаянкі. Вялікае возера Струста з астравамі і паўвыспамі, затокамі, мысамі і пакручастымі берагамі мае вельмі маляўнічы выгляд.

З тамтэйшых астравоў варта наведаць Чайчын — другі па велічыні ў Беларусі. Уздоўж вострава ўтварыліся глыбокія затокі з чыстымі і пясчанымі пляжамі.

**5. Нарач**

У пераліку немагчыма абмінуць Нарач — найвялікшае возера краіны. Яго плошча складае 80 квадратных кілямэтраў, а ўздоўж 41 кілямэтру берагавой лініі ўпарадкавана больш за дзесяць адкрытых для наведваньня пляжаў. Летам вада ў Нарачы праграваецца хутка і да 19 градусаў, а купальны сэзон можа доўжыцца амаль сто дзён.

*(скарочана)*

**Радыё Свабода**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЫТАДЭЛЬ

**Палітыка — механізм прымусу эліты да адказнасці. Сам факт наяўнасці ў Беларусі адзінага палітыка азначае безадказнасць тых, хто надзелены правам прымаць рашэнні.**

Сацыёлаг Лявада-Цэнтра Барыс Дубін яшчэ ў 2006 годзе напісаў, што задача дзяржаўнага тэлебачання — гэта спрашчэнне структуры грамадства, падаўленне разнастайнасці, выцясненне іншых, адрозных ад прапагандаваных тэлебачаннем мадэляў паводзінаў і грамадска-палітычнай думкі.

"Прастата — тая ж дурата", — кажа прымаўка. Прасцяк — гэта чалавек, які не ўсведамляе свае жыццёвыя інтарэсы і каштоўнасці. Такім чынам, яму можна навязаць чужыя. Напрыклад, інтарэсы і каштоўнасці ўлады.

На прастаце як на падмурку стаіць так званая беларуская мадэль. «Усё ў простым, — растлумачыў дэлегатам Пятага Усебеларускага народнага сходу (5УНС) адзіны палітык (АП). — Інавацыі, ІТ-тэхналогіі, прыватызацыя і іншае, усё гэта зразумела, мы ўжо гэта асвоілі. Але ўсё, і наша жыццё таксама, у простым — трэба распранацца і працаваць да сёмага поту!»

Як тут ні прыгадаць тэзу прапаршчыка з савецкага анекдота: «Чаго тут думаць, трэсці трэба!»

Свет на парозе чацвёртай тэхналагічнай рэвалюцыі, а беларусам прапануецца сустрэць яе голымі і потнымі.

На думку АП, так будзе прасцей сканцэнтравацца на ключавых прыярытэтах — інвестыцыях, занятасці, экспарце, інфарматызацыі і моладзі.

Просты чалавек тэксты дакладаў на Усебеларускім народным сходзе з алоўкам у руках не вывучае, а на слых нават спецыялісту не так проста адчуць нюансы. Звернемся, напрыклад, да разваг АП аб інвестыцыях. Асноўная навацыя інвестыцыйнай палітыкі будзе палягаць... у сумленным і адкрытым ільготным крэдытаванні ўсіх новых праектаў і праграм.

Але калі гэта так, няўжо ўсе папярэднія пяцігодкі льготнае крэдытаванне ажыццяўлялася несумленна? Ці варта пасля гэтага здзіўляцца шматмільярдным стратам як адзінаму выніку інвестыцыйнай дзейнасці чыноўнікаў.

Падобным чынам і выбудаваная «праграма развіцця, а не застою; праграма будучыні, а не мінуўшчыны; праграма дзеянняў, а не чаканняў».

Прыклад. Важным напрамкам рэгіянальнага развіцця стане стварэнне навукова-тэхналагічных паркаў у якасці пляцовак для арганізацыі вытворчасцей, заснаваных на тэхналогіях V і VI тэхналагічных укладаў.

Прадэкларавайшы такую амбітную задачу, АП пералічыў асноўныя рэгіянальныя аб'екты будучых капітальных укладанняў. У Брэсцкай вобласці — гэта горна-абагачальны камбінат на базе радовішча «Сітніцкае» і лесапільная вытворчасць у «Івацэвічдрэве»; у Віцебскай вобласці — рэканструкцыя «Нафтана» і Аршанскага льнокамбіната. Прыкладна такі ж узровень «пляцовак» для арганізацыі высокатэхналагічных вытворчасцяў і ў астатніх абласцях.

Жанр «Азбукі паліталогіі» прымушае мяне звярнуцца па дапамогу да Вікіпедыі.

V тэхналагічны ўклад абапіраецца на дасягненні ў галіне мікраэлектронікі, інфарматыкі, біятэхналогіі, геннай інжынерыі, новых відаў энергіі, матэрыялаў, асваення касмічнай прасторы, спадарожнікавай сувязі. У аснове VI тэхналагічнага ўкладу ляжыць канвергенцыя нана, біа, інфа і кагнітыўных тэхналогій.




Прызнаюся, зразумець, якім чынам камбінацыя вышэйпералічаных тэхналогій ужо ў бліжэйшыя пяць гадоў будзе ўкаранёная на Аршанскім ільнокамбінаце, я не здольны. Але гэта выключна мая праблема. Магчыма, таму ў мяне і не было нават найменшага шанцу апынуцца сярод дэлегатаў 5УНС.

**Малако без каровы**

Далейшы аналіз 5УНС немагчымы без тэарэтычнага адступлення.

Усе сістэмы праўлення дзеляцца на два тыпы: прадстаўнічыя (дэмакратычныя) і аўтакратычныя. Што тычыцца гібрыдных сістэм, дык аднясенне іх да трэцяга тыпу я лічу неправамерным, бо дэмакратычныя інстытуты яны выкарыстоўваюць у якасці шырмы для прыкрыцця свайго аўтакратычнага зместу, і не больш за тое.

У аснове першага тыпу праўлення ляжаць дагаворныя адносіны паміж дзяржавай і грамадзянамі, у аснове другога — адносіны самадзяржац-падданыя.

5УНС быў створаны ў адпаведнасці з артыкулам 37 Канстытуцыі РБ (указ №164 ад 3 мая 2016 г.). Гэты артыкул прадугледжвае права грамадзян удзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў. Непасрэдны ўдзел «забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў, абмеркаваннем праектаў законаў і пытанняў рэспубліканскага і мясцовага значэння».

Спасылку на закон мы знаходзім і ў дакладзе АП: «Разам мы павінны прыняць рашэнне па самых важных пытаннях развіцця беларускай дзяржавы і грамадства. Такое права нам дадзенае законам аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах».

Адкрываем закон. У адпаведнасці з артыкулам 6, удзельнікі сходаў маюць права абмяркоўваць, уносіць прапановы, прымаць рашэнні і звяртацца з прапановамі ў дзяржаўныя органы. Пры гэтым «зварот рэспубліканскіх і мясцовых сходаў разглядаецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў».

А цяпер адкрыем рэзалюцыю 5УНС, прынятую аднагалосна 23 чэрвеня. У пункце 3 чытаем: «Даручыць дзяржаўным органам...»

На мове АП гэта называецца «прамым народаўладдзем». І не важна, што такога ўзроўню «шчырасці» Канстытуцыя не прадугледжвае. Але якое дачыненне гэта мае да жадання дэлегатаў 5УНС «па прыярытэтных для краіны напрамках <...> праз дзесяць гадоў увайсці ў лік краін-лідараў»?

Для пачатку варта правесці мяжу паміж вынаходніцтвам і інавацыяй. Вынаходніцтва — рашэнне тэхнічнай задачы. Інавацыя — стварэнне камерцыйна паспяховага прадукту на аснове вынаходніцтва. Краіны, няздольныя да інавацый, не змогуць знайсці свайго месца ў чацвёртай тэхналагічнай рэвалюцыі. Расія, на думку Грэхэмам, — адна з такіх краін. Таму не варта здзіўляцца, што Швейцарыя з насельніцтвам 7,5 мільёна чалавек экспартуе ў год у 4 разы больш высокатэхналагічных прадуктаў, чым Расія.

**Без права на карэкціроўку**

«Галоўная мэта — рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоў жыцця насельніцтва на аснове ўдасканалення сацыяльна-эканамічных адносін, інавацыйнага развіцця і павышэння

*(працяг на стар. 4)*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# ЧАМУ БЕЛАРУСЬ І ЗІМБАБВЭ — САМЫЯ НЕСТАБІЛЬНЫЯ КРАІНЫ

**Вы ведаеце, якія самыя нестабільныя краіны ў сьвеце? Не сьпяшайцеся з адказам. Усё залежыць ад крытэрыю, паводле якога вымяраецца гэтая зьява. Калі яе ацэньваць у залежнасьці ад таго, як доўга адзін чалавек кіруе дзяржавай, то самыя стабільныя краіны — гэта Беларусь і Зімбабве. У Беларусі ўжо 22 гады нязьменна на пасадзе прэзыдэнта знаходзіцца Аляксандр Лукашэнка. У Зімбабвэ дыктатар Робэрт Мугабэ кіруе краінай ужо 36 гадоў!**

Але вось калі узяць за крытэрый стабільнасьці эканамічныя, найперш, фінансавыя паказьнікі, то вымалёўваецца зусім іншая карціна. Маецца на ўвазе стабільнасьць абменнага курсу нацыянальнай валюты, нязьменнасьць цэнаў, адсутнасьць дэвальвацыі. То бок, тое, з чым людзі у звычайным жыцьці сутыкаюцца кожны дзень.

Дык вось якраз па гэтых крытэрыях Беларусь і Зімбабве — самыя нестабільныя краіны ў сьвеце. Бо за апошнія 22 гады толькі ў дзьвюх гэтых краінах адбыліся тры дэнамінацыі. Гэта значыць, што гэтыя дзяржавы зьяўляюцца ўсясьветнымі лідэрамі па інфляцыі. Бо дэнамінацыя патрэбна тады, калі інфляцыя і дэвальвацыя набываюць вялізныя маштабы. Нагадаю, што толькі за 2009-2015 гады дэвальвацыя беларускага рубля склала каля 700%.

Вось цяпер беларускія ўлады шмат разважаюць пра ўмацаваньне незалежнасьці краіны. А. Лукашэнка заявіў, што трэба падтрымліваць тых кандыдатаў у дэпутаты, якія выступаюць за незалежнасьць. Але, як вядома, адным з важнейшых элемэнтаў незалежнай дзяржавы зьяўляюцца грошы. Калі моцная нацыянальная валюта, да яе ёсьць давер грамадзян, то і моцная дзяржава, незалежнасьці нішто не пагражае.

А ці давярае насельніцтва Беларусі нацыянальнай валюце? Паводле сацыялягічнага апытаньня НІСЭПД у сакавіку 2016 году, беларускаму рублю давярала толькі 20,6% (даляру — 52,7%). 85% банкаўскіх укладаў насельніцтва Беларусі — у замежнай валюце. Народ ня верыць важнейшаму інстытуту нацыянальнай дзяржавы — беларускаму рублю. Улады ўжо шмат гадоў вядуць барацьбу супраць далярызацыі эканомікі, але беспасьпяхова.

Такім чынам беларускай незалежнасьці пагражае ня толькі, а можа і ня столькі слабая нацыянальная сьвядомасьць беларусаў, колькі слабая нацыянальная валюта. За чвэрць стагодзьдзя Беларусь ня здолела стварыць надзейную эканамічную, фінансавую аснову дзяржаўнасьці. І гэта ёсьць фундамэнтальная праблема, якая цягне за сабой масавую міграцыю, адмоўна уплывае на такія каштоўнасьці, як патрыятызм, гонар за дзяржаву і інш.

Але вернемся да дэнамінацыі. Магчыма, і сапраўды існуе жорсткая заканамернасьць: чым даўжэйшы час на чале дзяржавы стаіць адзін чалавек, тым большая там інфляцыя. І ў якасьці ілюстрацыі яшчэ раз пра гэтую дзівосную краіну — Зімбабвэ. Некалі квітнеючая афрыканская дзяржава даведзеная сваім лідэрам Робэртам Мугабэ, які доўга будуе сацыялізм, да ручкі. У 2009 г. інфляцыя там склала 321 000 000%! Р. Мугабэ знаходзіцца ва ўладзе з 1980 г., яму ўжо 92 гады, але сыходзіць на пакой, адмовіцца ад статусу ўсемагутнага дыктатара ён не зьбіраецца, чапляецца за ўладу рукамі і нагамі. Каб жа ж гэта не была і беларуская будучыня.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

# ЛУКАШЕНКО ПЕРЕСТАЕТ БЫТЬ «БАТЬКОЙ»

**Государство становится для белорусов все более чужим, а бессменный президент теряет ореол народного вождя. Такие выводы можно сделать из июньского национального опроса НИСЭПИ.**

При этом наши граждане демонстрируют удивительную способность адаптироваться к ухудшению жизни. Хотя отечественная экономика продолжает падать, доля считающих, что она в кризисе, уменьшилась с 87,8% в марте до 81% в июне. В целом за квартал экономическое самочувствие белорусов, по заключению НИСЭПИ, даже несколько улучшилось.

**В бравурную риторику не верят**

Интересно, что и электоральный рейтинг Александра Лукашенко за это время слегка подрос — с 27,3% до 29,5%. Разница, правда, в пределах статистической погрешности, да и рейтинг доверия за квартал сполз с 41,7% до 38,6%, но во всяком случае, как видим, весенний указ о повышении пенсионного возраста, вопреки прогнозам аналитиков, эти личные показатели официального лидера отнюдь не обрушил…

Хотя в целом руководителя страны цифры НИСЭПИ вряд ли обрадуют. Как видим, вопреки заявлениям Лукашенко, что никакого кризиса у нас нет, подавляющее большинство соотечественников уверены: есть, есть. Более того, 42,3% называют главным виновником кризиса именно президента (вот она, расплата за режим личной власти).

Довольно критично восприняла масса и бравурные тезисы, прозвучавшие в апрельском послании главы государства народу и парламенту. Например, 55,8% не согласились с заявлением, что «все необходимые решения для развития экономики власть уже приняла, их просто нужно реализовать» (согласились лишь 31,1%). Не особо верят белорусы и в то, что «в основе государственной политики лежит забота о человеке», и в способность президента победить коррупцию, и в прочую казенную риторику.

**Глаза электората давно потухли**

Самый же показательный тренд, на мой взгляд, заключается в том, что рядовые белорусы разочаровываются в Лукашенко как выразителе их интересов, а построенную им систему воспринимают все более отчужденно.

Сегодня 54,4% считают, что глава государства прежде всего опирается на президентскую вертикаль (десять лет назад так считали 37%), 32,1% — что он опирается в первую очередь на государственных чиновников (десять лет назад этого мнения придерживались 20,5%).

За это же время заметно снизились доли тех, кто полагает, что президент прежде всего опирается на культурную и научную элиту (с 8,3% до 4,4%), на пенсионеров (с 41,4% до 21,8%), на жителей села (с 30,2% до 11,5%), на простых людей (с 34,2% до 8,2%).

С этими цифрами коррелирует и такой тренд: только менее 30% согласились в июне, что нынешнее белорусское государство — «это мое государство, оно защищает мои интересы», при том что еще год назад так полагали 41,2%.

В общем, хотя в целом патерналистские настроения в нашем обществе остаются довольно сильными, социология показывает, что простой белорус перестает смотреть на Лукашенко как на заботливого «батьку», а видит правителя, выстроившего мощную бюрократическую систему, которая обеспечивает ему удержание власти.

На этом фоне особенно нелепым и анахроничным кажется недавнее Всебелорусское собрание, при помощи которого неуклюже пытались поддержать мифологему народного президента.

Даже по официозным теле- и фотоотчетам последнего времени видно, сколь искусственным, имитационным стало общение главы государства с согражданами. Два с лишним десятилетия назад, в период борьбы за президентство и в начале правления Лукашенко действительно вживую контактировал с массой, умело заводил ее популистской риторикой, получал реальную энергетику поддержки. Сейчас он банально витийствует перед молчаливыми кучками отобранных представителей того или иного трудового коллектива, на лицах которых — равнодушие, напряжение, скука, но нет и следа восхищения. Глаза электората давно не горят.

Да, и явная ложь не проходит. Почти 59% не разделяют заявление официального лидера, что «твердое большинство нашего населения согласно с повышением пенсионного возраста» (согласились с этим утверждением только 15,1%).

**Политическая система работает без народа**

Несколько радующих цифр найдут для себя в свежем отчете НИСЭПИ оппозиционеры. Например, за полгода с 50,9% до 57% возросло число тех, кто считает, что в целом положение вещей в нашей стране развивается в неправильном направлении. 65,5% выступают за изменение нынешнего положения (за сохранение — только 25,2%). При этом несколько выросла доля сторонников перемен через уличные протесты, а рейтинг оппозиционных политических партий вообще подскочил с 11,3% в марте до 21,3%.

Но при этом важно понимать, какого рода перемен хотят белорусы. Вопросы демократии, так волнующие политическую оппозицию, у массы далеко не в приоритетах. Не греет и перспектива мучительных реформ (хотя без этой ломки, латанием анахроничной «белорусской модели развития» ничего не поправишь). Многие хотели бы, грубо говоря, заполучить более заботливого, щедрее наделяющего благами «батьку»…

Наверное, честолюбивому руководителю досадно, что народная любовь увяла, но по большому счету шестеренки системы исправно крутятся и без этой любви.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.by**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

*(пачатак на стар. 3)*

канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі». Гэтую выдатную цытату я запазычыў з рэзалюцыі 4УНС.

Прайшло пяць гадоў. 2,5 тысячы дэлегатаў, якія «канкрэтнымі справамі заслужылі аўтарытэт сярод грамадзян», абмяркоўваюць Асноўныя палажэнні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця РБ на 2016–2020 гады. Дакумент адкрываецца раздзелам «Вынікі пяцігодкі. Нашы дасягненні». Прыводжу першы абзац: «Галоўны вынік чацвёртай пяцігодкі (2011–2015 гады) — захаванне палітычнай стабільнасці, устойлівасці эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва».

Прыведзены мною абзац з Асноўнага палажэння пяцігодкі амаль слова ў слова пераснавараў у Рэзалюцыю 5УНС. Планавалі рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоў жыцця насельніцтва, а зрабілі справаздачу за стабільнасць і ўстойлівасць. Гэтакі погляд на Беларусь як на Ванькуўстаньку. Яе спрабуюць нахіліць і з Захаду, і з Усходу, а яна застаецца стабільнай і ўстойлівай, і пры гэтым умудраецца імкліва паляпшаць індэкс чалавечага развіцця: з 68-га месца ў 2000 годзе перасунуцца на 50-е ў 2015-м.

Аднак у спісе краін па ВУП па парытэце пакупніцкай здольнасці на душу насельніцтва Беларусь па выніках 2015 года апынулася на 66-м месцы. Разыходжанне з індэксам чалавечага развіцця склала 16 адзінак. Не ў каня атрымаўся корм. Адукаваных людзей — лішак, а з інавацыямі суцэльныя праблемы.

Патрабаваць з трыбуны 5УНС ад урада і перавыкалі «эфектыўна асвойваць новыя тэхналогіі і метады працы», зразумела, можна. Але пакуль асновай беларускай стабільнасці застаецца прынцып нязменнасці ўлады, адставанне ад краін-лідараў будзе павялічвацца.

Крыху міжнароднай статыстыкі. Калі ў 1950-х гадах 35 кабінетаў міністраў у дэмакратычных краінах атрымалі перамогу на перавыбарах, а 37 — прайгралі, то ў 1990-х гадах былі перавыбраны ўсяго 11 кабінетаў міністраў, а 46 пацярпелі паразу. Больш свежых дадзеных я не маю, але не даводзіцца сумнявацца ў тым, што фінансавы крызіс 2008 года паскорыў ратацыю палітычных элітаў у Еўропе. І ў гэтым залог развіцця.

Беларуская мадэль механізму карэкціроўкі курсу не ўтрымлівае, што і пацвердзіў сам факт правядзення 5УНС. Асобныя кідкія лозунгі не павінны ўводзіць у зман, бо сказана: «Беларусь сёння — цытадэль традыцыйнай культуры і маралі. Так будзе заўсёды». Але традыцыйная культура і мараль — гэта якраз тое, што супрацьстаіць мадэрну, г.зн. развіццю, эвалюцыйнаму развіццю, між іншым.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**«Новы час»**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ПАЛІТЫЧНАГА ПЛЮРАЛІЗМУ НЕ ПАБОЛЕЛА

**Незалежныя назіральнікі падвялі вынікі аднаго з ключавых этапаў бягучай парламенцкай кампаніі, вынікі якога істотна ўплываюць на ацэнку выбараў. Важна, што аналіз фармавання ТВК і АВК эксперты праводзілі з улікам анансаваных Цэнтрвыбаркамам новых падыходаў, якія павінны былі прымяняцца адказнымі за гэты працэс мясцовымі выканаўча-распарадчымі органамі.**

Пра тое, чым вызначыўся дадзены этап, распавядаюць каардынатары кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары" Валянцін Стэфановіч (ПЦ "Вясна") і Алег Гулак (Беларускі Хельсінкскі камітэт).

У справаздачы па выніках назірання за фармаваннем ТВК і АВК эксперты кампаніі кажуць пра генеральныя тэндэнцыі, якія прасочваюцца на дадзеным этапе, і аналізуюць, ці спрыялі рэальна новыя практыкі, абвешчаныя ЦВК, палітычнаму плюралізму выбарчага працэсу. Адзначаецца таксама, што пры абмеркаванні характарыстык прэтэндэнтаў у склад выбаркамаў перавага аддавалася прадстаўнікам праўладных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Пры гэтым падкрэсліваецца, што адсутнасць у заканадаўстве дакладных крытэраў для прэтэндэнтаў робіць магчымым выбарны падыход пры іх адборы. Такім чынам, эксперты канстатуюць, што Пастанова ЦВК № 18, паводле якой, у тым ліку, на абмеркаванне выносіцца пытанне пра дзелавыя і палітычныя якасці прэтэндэнтаў у склад камісій, на практыцы не паспрыяла большаму палітычнаму плюралізму пры фармаванні ТВК і АВК.

Прыводзячы статыстыку, аналітыкі адзначаюць, што доля прадстаўнікоў палітычных партый у складзе ТВК і АВК застаецца нязначнай (24,2% і 13,6% адпаведна) у параўнанні з доляй прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў (51% і 54,3% адпаведна).

Асноўнымі арганізатарамі выбараў, як і раней, з'яўляюцца прадстаўнікі пяці найбуйнейшых праўладных грамадскіх аб'яднанняў – Белая Русь, БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, ФПБ. Сумарная доля іх прадстаўнікоў у складзе ТВК і АВК склала 40% і 42,3 % адпаведна).

"Традыцыйна нізкім" называюць назіральнікі працэнт праходнасці ў склад камісій прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў – 31,2 % ад вылучаных у ТВК і 19,4% - у АВК.

**ПЦ "Вясна"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 17.07.2016 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.